# КРЫВІЯ

Выданьне беларускае
нацыянальнае меншасьці ў Чэхіі
№32 Сьнежань 2013 - Жнівень 2014

Культурна-асьветніцкі
часопіс



## ЮРКА СТАНКЕВІЧ
* 14 сакавіка 1928 ў Вільні
† 7 жніўня 2014 ў Празе

Зь вялічэзным смуткам мы разьвіталіся зь Юркам Станкевічам, шматгадовым рэдактарам часопісу "Крывія", лідэрам і сымбалем беларускай грамады ў Чэхіі.

Юрка Станкевіч нарадзіўся ў Вільні і быў настарэйшым з трох сыноў вядомага прафэсара Яна Станкевіча і ягонай жонкі-чэшкі Марыі Навакавай. Прыхільнасьць Яна Станкевіча да ідэі незалежнасьці Беларусі вымусіла яго і ягоную сямью пакінуць Радзіму. Спачатку была Прага, потым паваенная амэрыканская зона акупацыі ў Нямеччыне і ўрэшце – Злучаныя Штаты Амэрыкі. Менавіта на амэрыканскай зямлі Юрка атрымаў адукацыю і працаваў большую частку свайго доўгага жыцьця.

Пасьля выхаду на пэнсію ў 1993 годзе, ён разам з жонкай Ганай вярнуўся на яе радзіму ў Чэхію. Тут Юрка хутка адчуў сябе як дома сярод сваіх чэскіх сваякоў з боку маці, а таксама значнай беларуская грамада, у якой Юрку цанілі і паважалі.

У Празе Юрка Станкевіч працягваў займацца беларускімі справамі, быў душой і ўдзельнікам шматлікіх беларускіх праектаў і ініцыятываў – часопісу "Крывія", беларускай школцы, пытаньню ўключэньня прадстаўніка беларускай супольнасьці ў склад Рады ўраду Чэскай Рэспублікі па справах нацыянальных меншасьцяў і г.д. Аднак, асаблівае месца сярод іх належала "Belarusian Review," найстарэйшаму англамоўнаму часопісу зь непарарванай традыцыяй выданьня, цалкам прысьвечанаму беларускай тэматыцы. Цягам доўгага часу Юрка быў галоўным рэдактарам гэтага выданьня.

Юрка заўсёды быў шчырым і адкрытым да людзей, якіх ён сустракаў у сваім жыцьці. Ён атрымліваў асалоду ад знаёмства з новымі мовамі і традыцыямі, любіў падарожжы і заўсёды знаходзіў нейкія куткі прыроды, якія нагадвалі яму Беларусь. Аж да апошніх гадоў Юрка ахвотна вандраваў разам зь сямьёй ці сябрамі.

У 2013 у якасьці падарунка на 85-ы дзень народзінаў ён атрымаў квіткі на самалёт ў Вільню, места дзе ён нарадзіўся. Хоць яму было ўжо даволі цяжка хадзіць, Юрка з радасьцю прыняў гэтыя запросіны. У часе вандроўкі ён наведаў дарагія яго сэрцу месцы маленства і юнацтва. У гэтым сучасным і чужым месьце ён убачыў Вільню свайго дзяцінства.

Юрка таксама любіў прыгадваць свае вандроўкі ў Прагу, ня толькі цягам юначых гадоў, але, напрыклад, у 1968 годзе. Тады, ужо як грамадзянін ЗША, ён знаходзіўся ў чэхаславацкай сталіцы падчас "Праскай вясны". Папярэджаны амэрыканскай амбасадай пра патэнцыйную небясьпеку далейшага знаходжаньня ў Празе, Юрка, аднак, не мог утрымацца, каб не пабачыць гэтыя эпахальныя падзеі на ўласныя вочы.

Інжынэр з адукацыі, Юрка шмат свайго часу прысьвяціў навуцы дзяцей беларускіх эмігрантаў беларускай мовы і гісторыі, спачатку ў Злучаных Штатах, а потым і ў Празе. Ён быў нават гатовы езьдзіць дамоў да тых малых, чые семьі хацелі перадаць беларускасьць сваім дзецям.

Высілкі Юркі былі накіраваныя на распаўсюд выкарыстання беларускай мовы. Ён быў настаўнікам, душой і лідэрам беларускай супольнасьці ў Чэхіі, а таксама аўтарам і выдаўцом падручнікаў беларускай мовы і гісторыі. Ён склаў і распаўсюдзіў беларускі размоўнік для англамоўных студэнтаў. Ён ніколі не браў грошы за сваю працу, спрабуючы, каб усё, што ён распрацаваў, распаўсюджвалася ў адкрытым доступе для як мага шырэйшага кола карыстальнікаў. У нашай памяці ён назаўсёды застанецца шчодрым, добразычлівы, адкрытым і неверагодна самаадданым чалавекам, чыё сэрца было заўсёды зь Беларусьсю, незалежна ад таго, дзе ён жыў ці вандраваў.

Юрка Станкевіч памёр 7 жніўня 2014 г. у Празе. У яго засталіся два малодшыя браты – Вячка і Багуш, іх жонкі, пяць пляменьнікаў зь семьямі, два ягоныя ўнукі, Кобі і Майлз, і дачка Яна, а таксама вялізная міжнародная беларуская дыяспара. Пахавальныя служба адбылася 15 жніўня 2014 г. у Празе ў царкве Збавіцеля, пасьля чаго Юрка быў пахаваны ў Кладне побач з сваёй жонкай Ганай. Гэты нумар "Крывіі" у значнай ступені ёсць беларускамоўнай кампіляцыяй апошніх матэрыялаў "Belarusian Review", зь якімі працаваў Юрка, рыхтуючы нумары часопісу да друку.

## Вянок памяці Юрку Станкевічу

У Празе на 87-м годзе жыцьця ня стала Юркі Станкевіча - раднага БНР, дзеяча беларускай дыяспары ў ЗША і Чэхіі, выдаўца часопісаў Belarusian Review, "Крывія". Рада Беларускае Народнае Рэспублікі выказвае сваё спачуваньне ягоным родным і блізкім. У вечнасьць адыйшоў выбітны беларускі патрыёт і грамадзкі дзеяч, які быў і застаецца прыкладам для многіх людзей.
Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, 7.8.2014

Сёньня пасьля працяглай хваробы ня стала шматгадовага галоўнага рэдактара нашага часопісу Юркі Станкевіча. Рэдакцыя "Belarusian Review" выказвае шчырыя спачуваньні ягонай сям'і і смуткуе разам зь імі. Мы працягнем справу, якой Юрка прысьвяціў вялікі кавалак свайго жыцьця. Вечны супакой і спачын ягонай душы!
Рэдакцыя часопісу "Belarusian Review", 7.8.2014

Юрка Станкевіч — гэта частка майго пакаленьня. Пакаленьня людзей якія перажылі Другую сусьветную вайну і апынуліся на Захадзе. Нашым заданьне было — нечым служыць беларускаму грамадзтву і нешта зрабіць для Беларусі. Ён служыў беларускаму грамадзтву перш за ўсё арганізоўваючы школы і розныя калектывы грамадзкага профілю. І гэта быў ягоны ўклад у справу адраджэньня Беларусі. Вечная памяць
Вітаўт Кіпель, 7.8.2014

Нажаль, адыходзяць лепшыя людзі , прысьвяціўшыя сваё жыцьцё беларускай справе. Юрка быў блізкім нам аднадумцам. і чалавекам. На ўсе значныя падзеі ТБК Літвы прыязджаў у Вільню . Ён самаахвярна аддаваў свае сілы і сродкі для беларускай дзейнасьці ў Празе і сьвеце. Вечная памяць Табе, дарагі Юра ад беларусаў - віленчукоў.
Хведар Нюнька і Рада ТБК Літвы, 7.8.2014

Сп.Юрка быў з той пароды беларусаў, якім не можа быць месца ў сучаснай РБ. Беларус народнай рэспублікі. Які і ў старыя гады выглядаў годным і мудрым. Такім беларусам не даюць выжыць на атручанай постсаўковай Беларусі. Але іх прысутнасць і іх актыўнае беларускае жыццё ў беларускім замежжы дапамагае больш годна і адказна жыць нам, якія жывем і робім на атручанай нечысцю тэрыторыі. Вечная памяць!
Андрэй Мельнікаў, 7.8.2014

Вечная памяць!!! Такіх шчырых беларусаў, як ён, на сьвеце вобмаль.
Лявон Баршчэўскі, 7.8.2014

Зямля яму пухам. Ён не быў лідарам. Ён быў нашым сумленьнем. Па ім мы звяралі свае учынкі.
Яўген Мурашка і Галіна Арцёменка, 7.8.2014

Сп. Юрка быў беларусам ня толькі ў Празе. Яшчэ ў свой першы прыезд у Беларусь у 1990 годзе ён даў нам з С.Дубаўцом грошы і камп'ютар на выданне газэты "Свабода". На тым самым камп'ютары мы пачалі выдаваць і "Нашу Ніву". У тыя часы гэта быў вельмі дарагі дарунак. Вечная памяць, пашана і ўдзячнасць
Павал Жук, 7.8.2014

Я ведаў, што Ён мусіць некалі памерці, як і ўсе мы. Але заўсёды,сустракаючы яго, я зьдзіўляўся яго аптымізму,жыцьцялюбству, нейкай надзвычай натуральнай, я б сказаў, падсьведамай ,любові да ўсяго беларускага. Я так і не пабываў у яго дома, у які ён заўсёды запрашаў мяне. Ну,што ж...Сустрэнемся ў агульным Пухам табе зямелька чэсская, дарагі дружа!
Валеры Мазынскі, 7.8.2014

Сумная навіна: 7 жніўня памёр Юрка Станкевіч, галоўны рэдактар Belarusian Review. За апошнія два гады гэты часопіс страціў двух выдатных дзеячоў, у мінулым годзе памёр яго даўні рэдактар Язэп Арцюх. Ад імя NAABS, я перадаю нашы спачуванні сям'і і блізкім Юркі. RIP.
Дэвід Марплз, 9.8.2014

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ ДАПАМАГАЎ НАСАМРЭЧ ЗРАЗУМЕЦЬ БЕЛАРУСЬ

*Столькі шэрага туману*
*На былое напусцілі,*
*Што не знойдзеш без падману*
*Ані казкі, ані былі*
Генадзь Бураўкін




Пра Генадзя Бураўкіна напісана даволі шмат тымі людзьмі, якія яго блізка ведалі. Я не належу да іх кола, аднак, я меў шчасьце асабіста ведаць гэтага чалавека. Мы пазнаёміліся зь ім у красавіку 2013 году ў Вільні на Канфэрэнцыі беларусаў Балтыі і замежжа, якая супала зь юбілеем старшыні Таварыства беларусаў Летувы Хведара Нюнькі. Пасьля гэтага я двойчы быў у Бураўкіна дома ў яго менскай кватэры, каб запісаць зь ім разгорнутыя інтэрвію. Гэтыя размовы цягнуліся па некалькі гадзінаў і ахоплівалі розныя пытаньні, але не зважаючы на тэму размовы перада мной быў Чалавек і Грамадзянін, у якім было столькі мудрасьці і годнасьці. Яго хацелася слухаць і распытваць яшчэ і яшчэ.

Аднак, для мяне асабіста Генадзь Бураўкін – гэта не толькі цудоўны паэт, але гэта той чалавек, які сваімі словамі дапамагаў насамрэч зразумець Беларусь і адначасна ламаў клішэ і стэрыятыпы аб нашай краіне, аб падставах нашай незалежнасьці і падмурках нашай ідэнтычнасьці. Калі пачытаць даволі значную колькасьць замежных (а зрэшты і пэўных айчынных) навукоўцаў і аналітыкаў, што займаюцца беларускай тэматыкай, то можна пабачыць, што тых стэрыятыпаў існуе процьма. Маўляў, беларусы "дэнацыяналізаваныя", спрэс зрусыфікаваныя зь нявызначанай уласнай тоеснасьцю, іх краіна нібыта "выпадкова" атрымала незалежнасьць, а сытуацыя ў Беларусі напярэдадні абвяшчэньня незалежнасьці была нібыта не вынікам сканцэнтраваных намаганняў Масквы ў выкараненні нацыянальнага беларускага элемэнту, але гатовасьці беларускіх элітаў прыняць ролю выпрабавальнага палігону для русыфікацыі пад прыкрыцьцём савецкага інтэрнацыяналізму.

Бураўкін распавядаў пра беларускія палітычныя і творчыя эліты як чалавек, які цудоўна ведаў гэтую сыстэму знутры. І свае расповяды ён падмацоўваў яскравымі прыкладамі пра дзейнасьць канкрэтных асобаў, пачынаючы ад найвышэйшага кіраўніцтва тагачаснай Беларускай ССР – К. Мазурава, П. Машэрава і Ц. Кісялёва. У ягоных расповядах адлюстроўвалася ўся тагачасная рэчаіснасьць. Яна была ані белай, ані чорнай, але шматкаляровай і шматузроўневай. Сваімі расповядамі Бураўкін нібы маляваў партрэты людзей, што былі адказныя за важныя рашэньні, а таксама паказваў як правілы гульні, так і межы дазволенага для беларускіх элітаў. Кожны прыклад толькі падмацоўваў гэтыя вобразы і даваў разуменьне ўсёй шматбаковасьці працэсаў, што абываліся ў Савецкай Беларусі. Бураўкін мог даступна патлумачыць увесь мэханізм таго ці іншага працэсу, пачынаючы ад ягоных прычынаў і сканчваючы насупствамі. І таму расповяды Бураўкіна пра палітычныя і грамадзкія працэсы ў позьняй БССР проста зьнішчалі тыя самыя шматлікія лінейныя стэрыятыпы і клішэ з працаў пра Беларусь, напісаных тымі аналітыкамі і навукоўцамі.

Генадзь Бураўкін пакінуў пасьля сябе даволі шмат успамінаў, якія тычацца перыяду знаходжання Беларусі ў складзе СССР, атрыманьня краінай незалежнасьці і першых крокаў беларускай незалежнай дыпляматыі. Ягоны палітычны талент, як падкрэсьліла Алена Макоўская "паспрыяў стварэнню даверу, таму, што беларусы замежжа адкрылі для сябе і другую, несавецкую, нацыянальную, беларускую Беларусь", што сам Бураўкін лічыў адным з найлепшых сваіх дыпламатычных дасягненняў. Пры гэтым, як дакладна адзначыў Уладзімір Някляеў, Генадзь Бураўкін быў чалавекам не толькі з паэтычным, але і з палітычным мысьленьнем, які балюча перажываў сваю незапатрабаванасьць як дзяржаўнага дзеяча, бо ён насамрэч мог шмат зрабіць для Беларусі на любой, самай адказнай пасадзе.

Тая мудрасць і дакладнасьць у ацэнцы Бураўкіным падзеяў беларускай гісторыі, сучаснікам і сустваральнікам якіх ён быў, вымагае больш уважлівага стаўленьня да ягонага творчага даробку з боку ўсіх тых, хто сапраўды хоча зразумець Беларусь такой, якой яна ёсьць насамрэч.

*Кірыл Касцян*

**Біяграфічная даведка "Крывіі":**
**Генадзь Бураўкін** (28 верасня 1936 - 30 траўня 2014)- беларускі паэт, журналіст і дыплямат. Старшыня Дзяржтэлерадыё БССР (1978-1990), Пастаянны прадстаўнік Беларусі ў ААН (1990-1994), дэпутат Вярхоўнага Савету БССР X і XI склікаьняў (1980-1990), старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны (1997-1999). Адзін з ініцыятараў прыняцця Закону аб мовах у 1990 г.. На вершы Бураўкіна напісана шмат папулярных песняў ("Калыханка", "Завіруха", "Зачарованая", "Конь незацугляны", "Жар-птушка", "Шлях да Беларусі" і інш.)

## А. АЛЯКСАНДАР НАДСАН: "БЕЛАРУСЫ ПАВІННЫ ІСЬЦІ ДА БОГА СВАЁЙ ДАРОГАЙ І НА СВАЁЙ РОДНАЙ МОВЕ"

*Апошнім часам даволі шмат гаворыцца пра Расейскую праваслаўную царкву як аднаго з увасабляльнікаў у жыцьцё канцэпцыі тзв. "русского мира", да якога залічваецца і Беларусь. Пра наступствы такога "палітычнага праваслаўя" і ролю Каталіцкай царквы ўсходняга абраду (уніяцкай) ў Беларусі часопіс Belarusian Review размаўляе з а. Аляксандрам Надсанам, апостальскім візытатарам для беларусаў-каталікоў усходняга абраду ў замежжы.*

Belarusian Review: *У цяперашняй Беларусі Расейская праваслаўная царква ёсьць найбольшай канфэсіяй. У той самы час, не адмаўляючы дзяржаўнага сувэрэнітэту краінаў, кіраўніцтва гэтай царквы заяўляе пра тое, што Беларусь разам з Расеяй і Ўкраінай ёсьць ядром т.зв. "русского мира". Што такі падыход маскоўскіх царкоўных гіерархаў азначае для Беларусі як суб'екта палітыкі?*

а. Аляксандар Надсан: Гэтае пытаньне лепей адрасаваць гіерархам праваслаўнай царквы. З аднаго боку, я б не хацеў умешвацца ў іхныя ўнутраныя справы, але зь іншага боку я трошкі не разумею становішча нашых праваслаўных братоў у Беларусі. Калі ёсьць беларусы як нацыя і калі ёсьць шмат аўтакефальных праваслаўных цэркваў у розных краінах, то чаму праваслаўная царква ў Беларусі павінна быць часткай Маскоўскага патрыярхату. Але хачу яшчэ раз падкрэсьліць, што гэта пытаньне маюць вырашаць самі праваслаўныя. Напрыклад, калі ідзецца пра каталіцкую царкву, дык яна адзіная на ўсім сьвеце, але ў кожнай краіне ёсьць свае гіерархі. І калі Беларусь стала незалежнай, то ў першую чаргу Сьвяты Айцец даў нам сваю каталіцкую гіерархію.

BR: *Згодна з кіраўніцтвам Расейскай праваслаўнай царквы падмуркам канцэпцыі "русского мира" ёсьць расейская мова і культура. Ці можна ў такі спосаб наагул казаць пра Расейскую праваслаўную царкву на тэрыторыі Беларусі як пра беларускую царкву?*

а.АН: Я ня ведаю, ці справай царквы ёсьць займацца гэтымі справамі. Справай царквы ёсьць несьці Слова Божае і вестку збаўленьня сьвету ў форме найдаступнейшай для кожнага чалавека. А гэтай найдаступнейшай формай ёсьць зварот да людзей на мове таго народу, да якога яны належаць. Не мая мэта як сьвятара ісьці і перарабляць беларуса на кагосьці іншага. Мы бярэм сьвет як ёсьць і мы прыносім гэтую вялікую вестку Збаўленьня роду людзкога для ўсіх. Ня трэба рабіцца кімсьці іншым, каб быць сынам Божым, бо ў Бога ёсьць месца для ўсіх. Таму я не разумею, чаму трэба прыносіць вестку збаўленьня роду людзкога да беларусаў на іншай іншай мове і ў іншай форме, чым сама звычайная беларуская. Памятайма, што пасьля Ўзьнясеньня Хрыста на неба апосталам быў дадзены дар розных моваў, каб яны на ўсіх мовах ўсіх народаў сьвету нясьлі вестку збаўленьня роду людзкога. І там не было ані лепшых, ані горшых моваў!

BR: *Наколькі падобная расейскацэнтрычная пазыцыя Расейскай праваслаўнай царквы ўплывае на беларускую нацыянальную тоеснасьць?*

а.АН: Я думаю, што такая пазыцыя не можа не ўплываць на тоеснасьць народу. Беларусы павінны ісьці да Бога сваёй дарогай і на сваёй роднай мове. Чаму гэта абавязкова трэба неяк карэктаваць ці абмяжоўваць? Хоць гэта і ўнутраная справа праваслаўнай царквы, але любыя царкоўныя гіерархі павінны зьвяртацца да вернікаў на мове таго народу, якому яны нясуць Слова Божае.

BR: *Чаму з боку Расейскай праваслаўнай царквы дагэтуль такое нэгатыўнае стаўленьне да Каталіцкай царквы ўсходняга абраду як у Беларусі, так, напрыклад, і ва Ўкраіне?*

а.АН: На жаль, так яно ёсьць і ў гэтым няма нічога новага. Памятайма, што акурат расейскі ўрад з дапамогай расейскай царквы зьліквідаваў Унію ў 1839 г. Выглядае, што ў Маскоўскім патрыярхаце дагэтуль уважаюць, што каталікі ўсходняга абраду – гэта нейкі нонсэнс, і што гэтыя вернікі павінны быць праваслаўнымі. Унія ў Беларусі была зьліквідавана сілай, сілай сьвецкай. Аднак, Хрыстос ніколі не прымяняў сілы і мы яе не ўжываем. Таму гэта ня толькі прыкра, але і балюча, бо мы хочам быць братамі з усімі, у тым ліку з нашымі братамі-праваслаўнымі.

BR: *У гістарычным кантэксьце Каталіцкая царква ўсходняга абраду часам трактуецца як нацыянальная царква беларускага народу. Якім Вы бачыце будучыню гэтай канфэсіі ў Беларусі?*

а.АН: Сапраўды, быў час, калі абсалютная большасьць беларусаў былі каталікамі ўсходняга абраду. Але я б ніколі не хацеў, каб царква называлася нацыянальнай, бо царква – ёсьць унівэрсальнай, дзе ёсьць месца дзеля кожнага. Беларусы былі часткай гэтай вялікай царквы Хрыстовай, дзе былі розныя нацыя, розныя мовы, розныя абрады, розныя формы, каб славіць Бога. Заўважце, што Унія ці ўсходні абрад у каталіцкай царкве ня ёсьць чымсьці новым. Паедзьце, прыкладам, у паўднёвую Італію – там ёсьць дыяцэзіі ўсходняга абраду, якія ніколі не былі праваслаўнымі. У сваю чаргу, я малюся і вельмі спадзяюся, што грэка-каталіцкая царква ў Беларусі будзе разьвівацца. Гэтае разьвіцьцё ня ёсьць скіраваным супраць праваслаўя ці якой-кольвек іншай канфэсіі. Гэта – патрэба душаў людзей, каб маліцца ў такой форме. Бог – вялікі і магутны, мы ж людзі – абмежаваныя. Але мы можам славіць яго ў розныя спосабы, бо яны ўсе яны на славу Божую.

*размаўляў Кірыл Касцян*

## ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ: ГАЛАСОЎ УСІХ БЕЛАРУСАЎ ПОЛЬШЧЫ ЗАМАЛА, КАБ СТАЦЬ ЕЎРАДЭПУТАТАМ

*Вынікі выбараў у Еўрапарламент, што адбыліся ў Польшчы 25 траўня 2014 г. у кантэксце Падляшша аказаліся даволі прадказальнымі. У Беластоку, а таксама ў Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветах найбольш галасоў атрымаў спіс “Права і Справядлівасці”. У Гайнаўскім павеце, найпапулярнейшым сярод выбарцаў “традыцыйна” аказаўся “Звяз Дэмакратычнай Лявіцы” у кааліцыі з “Уніяй Працы”. З пэрспектывы сітуацыі беларусаў Польшчы вынікі выбараў каментуе прафесар Яўген Мірановіч.*

Belarusian Review: *Ці маюць выбары ў Еўрапарламент нейкае адмысловае значэнне для беларускай меншасці ў Польшчы?*

Яўген Мірановіч: Безумоўна маюць, так як для ўсіх этнічных меншасцей ў Еўропе. З пункту гледжання малых супольнасцей сам Еўразвяз як установа становіча ўплывае на іх палітычнае становішча. Усе народы, аб’ядналыя ў гэтай арганізацыі ў пэўным сэнсе з’яўлаюцца нацыянальнымі меншасцямі і ёсць пастаянна прымушаныя шукаць кампрамісаў і ісці на нейкія саступкі. У выпадку сялянскіх народаў Усходняй Еўропы, гэта – вялікая школа дэмакратыі. У выпадку беларускай меншасці важна, каб у Еўрапарламенце былі прадстаўленыя тыя польскія партыі, што выступаюць за далейшую інтэграцыю. Для кожнай меншасці ў нашай краіне лепш багатая і дэмакратычная Польшча ў багатай і дэмакратычнай Эўропе, чым бедная краіна з аўтарытарнай уладай і нацыяналістычна настроеным грамадствам.

BR: *Чым, акрамя этнічнага чынніку, можна патлумачыць трошкі розныя выбарчыя перавагі ў Гайнаўцы і рэшце падляшскага рэгіёну, дзе пражываюць беларусы?*

ЯМ: У памяці старэйшага пакалення беларусаў вельмі добра запісаўся перыяд Народнай Польшчы. Таму заўсёды тут мае перавагу “Звяз Дэмакратычнай Лявіцы”, які зьяўляецца спаткаемцам камуністычнай партыі, што кіравала краінай да 1989 г. Апошнімі гадамі шмат беларусаў галасавала таксама на “Грамадзянскую платформу”, як памяркоўнейшую і ліберальнейшую ад “Права і Спавядлівасці” партыю. Але практыка паказвае, што гэтыя арганізацыі не шмат розняцца. Таму большасць заяўляла, што не мела на каго галасаваць і не пайшла на выбары. У заходняй частцы ваяводства, дзе дамінуюць рашуча каталіцкія традыцыі, тыя, што вырашылі пайсці на выбары, аддавалі свой голас на спіс “Права і Справядлівасці”.

BR: *Ці былі шанцы ў кагосьці з прадстаўнікоў беларускай меншасці атрымаць мандат дэпутату Еўрапарламенту і чаму, на Вашу думку, гэтага не адбылося?*

ЯМ: Прадстаўнік беларускай меншасці мае шанец атрымаць мандат дэпутата польскага парламента, толькі тады, калі будзе выступаць як прадстаўнік польскай ўплывовай партыі і не паказваць сваёй беларускасці. Беларусаў на Беласточчыне засталося надта мала, каб іх галасамі атрымаць мандат дэпутата. Працэс асіміляцыі апошнім часам ідзе маланкавым тэмпам, што не дае ніякай перспектывы на выбарчы поспех якога-кольвек беларускага руху. Каб атрымаць мандат дэпутата Еўпарарламенту патрэбная падтрымка звыш 50-ці тыс. выбаршчыкаў. Усіх беларусаў падчас перапісу насельніцтва ў 2011 г. налічылі каля 40 тысяч. Таму ніякіх шанцаў тут не было і не будзе.

*размаўляў* Кірыл Касцян

Біяграфічная даведка “Крывії”:

**Яўген Мірановіч** - беларускі і польскі гісторык, прафесар Беластоцкага ўніверсітэту, доктар габілітаваны, грамадска-культурны дзяяч беларускай меншасці ў Польшчы. Галоўны рэдактар газеты “Ніва” (1992-1997), да 2002 г. старшыня прагрмнай рады “Нівы”. Галоўны рэдактар часопісу “Беларускі Гістарычны Зборнік (Białoruskie Zeszyty Historyczne).

# Гісторыя Беларусі

## АЛЕСЬ КРАЎЦЭВІЧ: ПРЫСВАЕННЕ ДЗЕЯЎ ВКЛ ЦЭМЕНТУЕ СУЧАСНУЮ ЛЕТУВІСКУЮ НАЦЫЮ

*Сёлета адзначаецца 500-я гадавіна Аршанскай бітвы. З гэтай нагоды 23 снежня 2013 г. Сэйм Летувы абвясціў 2014-ы годам Аршанскай бітвы. Перамога ў ёй названая "гістарычнай", якая дазволіла абараніць "тэрытарыяльную цэласць Летувы" (Lietuvos teritorinis vientisumas). У адпаведнай пастанове падкрэсліваецца, што Аршанская бітва нясе ў сабе важную гістарычнай сувязь Летувы з Беларуссю і Ўкраінай, і гаворыцца пра шматнацыянальны склад войска ВКЛ (daugiatautė LDK kariuomenė). У сваю чаргу, у Беларусі падрыхтоўка да гэтага юбілею адбываецца толькі на ўзроўні грамадзянскай супольнасці. Наколькі важную ролю адыгрывае святкаванне такіх падзеяў на дзяржаўным узроўні і як гэта можа паўплываць на беларуска-летувіскія стасункі ў сфэры гісторыі? З такім пытаннем Belarusian Review звярнуўся да вядомага беларускага гісторыка Алеся Краўцэвіча.*

**Алесь Краўцэвіч:** “Абвяшчэнне сэймам Летувы 2014 г. годам Аршанскай бітвы, з абгрунтаваннем, што тая бітва нібыта дазволіла абараніць “тэрытарыяльную цэласць Летувы” – унутраная справа сучаснай Летувы, дакладней, іх унутраная фантазія. Па-першае, Вялікае Княства Літоўскае, якое баранілася ў той бітве – далёка не тоеснае этнічнай Летуве; па-другое, удзел продкаў летувісаў у той бітве быў маргінальны, як і

ўдзел іх ва ўсёй дзяржаве.

Што да тагачасных вояў-летувісаў, то вось, напрыклад, фрагмент з паслання караля і вялікага князя з 1535 г., які сведчыць пра абмежаванае іх выкарыстанне ў баявых дзеяннях: "… а баярам-шляхце Зямлі Жамойцкай ніякай цяжкасці ў тым не чыніць, бо яны людзі да таго непрыгодныя і каней малых маюць, а асабліва, мовы рускай добра не знаюць…"

Справа ў тым, што для невялікага народа летувісаў прыдуманая велічная гісторыя, у прыватнасці прысваенне дзеяў Вялікага Княства Літоўскага, з'яўляецца асновай дзяржаўнай ідэалогіі, якая цэментуе сучасную летувіскую нацыю. Летувіскія ідэолагі моцна трымаюцца за сваю фантазійную гісторыю і не збіраюцца нічога ў ёй змяняць. Абы на здароўе.

Іншая справа, як гэта ўспрымаецца навакольным светам. Пакуль беларусы не мелі дзяржаўнасці, то мусілі спажываць навязаную расейска-каланіяльную версію іх мінулага, маўляў, нядобрыя летувісы Беларусь акупавалі, а братэрская Масква вызваліла.
У незалежнай Беларусі паступова ўзмацняецца ўласная гістарыяграфія, у прыватнасці ўсведамленне ВКЛ як беларускай дзяржавы. Па меры яе развіцця, нашыя даследаванні становяцца вядомымі гісторыкам іншых краінаў і яны пачынаюць па-іншаму глядзець на нашае мінулае. Вось і ў заяве летувіскага сэйму гаворка пра гістарычную сувязь Летувы праз Аршанскую бітву з Беларуссю і Украінай.

Калі ж летувіскія гісторыкі надалей не захочуць наблізіць сваю ідэалагічную версію гісторыі ВКЛ да навуковай, то праз нейкі час іхняя фантазійная мінулая веліч станецца пасмешышчам для суседзяў."

## Часопіс "Belarusian Review"

Часопіс "Belarusian Review", галоўным рэдактарам якога з 2001 да 2014 году быў Юрка Станкевіч, ёсьць найстарэйшым у сьвеце часопісам на ангельскай мове цалкам прысьвечаны Беларусі, выданьне якога ніколі не прыпынялася. "Belarusian Review" запаўняе нішу беларускай тэматыкі як ў друкаваным фармаце, так і ў электронным выглядзе праз супрацу з "The_Point Journal". Чытацкую аўдыторыю часопісу складаюць амэрыканскія сэнатары, эўрапейскія парлямэнтары, навукоўцы і студэнты з розных краінаў сьвету, якія зацікаўленыя ў беларускай праблематыцы.

Праект "Belarusian Review" ёсьць цалкам некамэрцыйны і выдаецца выключна на валянтэрскіх пачатках. Вы можаце падтрымаць выданьне часопісу, выкарыстоўваючы сістэму PayPal ці крэдытную карту. Гузік для ахвяраваньняў зьмешчаны на сайце "The_Point Journal" (http://thepointjournal.com), які ёсьць афіцыйным сайтам "Belarusian Review".

## "…НЕЗДАРМА СТАРЫЯ ЖАДАЮЦЬ МОЛАДЗІ НЕ ВЕДАЦЬ ВОЙНАЎ"

*з расповяду Льва Матвеевіча (Лейбы Мотэлевіча) Смілавіцкага свайму сыну Леаніду Смілавіцкаму*



Не думаў, не гадаў, што тое, пра што распавядаў мне бацька амаль трыццаць гадоў таму, спатрэбіцца мне як гісторыку. Пакаленне бацькі ваявала, і асаблівымі людзьмі гэтыя хлопчыкі і юнакі 1923-1925 г.н. сябе не лічылі. Гэта потым іх назавуць героямі, бо яны ж выйгралі вайну, ды якую!

Праз два дзесяцігоддзі пасля той памятнай размовы ў Баярах на Міншчыне, урыўкі з якой прыводзяцца ніжэй, я пачаў збіраць лісты 1941-1945 гг. ў межах праекту "Незапатрабаваная памяць" для архіву Цэнтру дыяспары пры Тэль-Авіўскім універсітэце. У нашай сям'і не захавалася аніводнага ліста таты з фронту і на фронт ад яго бацькоў, маіх бабулі і дзядулі .

Засталося толькі гэтае інтэрв'ю, але і яно бярэ за жывое. Сёння я вырашыў ім падзяліцца...

18 снежня 1988 г.,

Станцыя Баяры, Маладзечанскага р-на

"*Пачакай, у сваім расповядзе ты абмінуў такі важны момант, як перапіска з домам. Ты пайшоў, напэўна, абяцаў пісаць?*

Гэта асаблівая тэма. Першы ліст я атрымаў з дому на станцыі Кузаватава [станцыя Куйбышаўскай чыгункі, размешчана ў Кузаватаўскім раёне Ульянаўскай вобласці, пасёлак гарадскога тыпу – ЛС] ў 1943 г. Матуля рэгулярна пісала, бацька ж быў непісьменны.

Паведамляла, як яны жывуць. Я рэгулярна адказваў. Лісты былі вялікай радасцю. Таму што ўпершыню ў жыцці такая доўгая адарванасць ад сям'і. Ад усяго звыклага і такія дзікія ўмовы, нягледзячы на тое, што мы не былі гарадзкімі свавольнікамі, перадавалі вастрыню крэўных дачыненняў. Назад жа не пускалі. Я можа быць нават пешшу сыйшоў, калі б адпусцілі.

*Сыйшоў бы?*

Паляцеў бы на крылах! Чаго можна было чакаць ад хлапчука ў 17 год? І, безумоўна, кожны ліст з дому быў для мяне вялікай радасцю, а лісты былі... Ну, якія лісты магла напісаць матуля? Звычайныя, простыя, поўныя любові, распавядала, як яны жывуць, як працуюць.

*Вялікія лісты?*

На дзве, тры старонкі. Звычайныя лісты, ішлі яны трыкутнічкамі без марак. Чакаў я іх вельмі. Не бярог, і ніводнага не захавалася, неяк ні разумеў іх значнасці на потым. Ды і дзе можна было захоўваць? Яны паляжаць трошкі, а куды яны падзеліся, і не памятаю. Што насілі ў нагруднай кішэні? Камсамольскі білет ды чырвонаармейскую кніжку. Вось і ўсё, ні тумбачак у нас не было, ні капцёркі. Гэта ж не мірны час. Гэта раз. А другое, мы ж не думалі ні пра будучыню, ні пра што. Што мы думалі? Жылі сённяшнім днём, вядома. Толькі так, як трава расце.

*Але з поўнай упэўненасцю, што жывяце, так як трэба? Што па-іншаму нельга, т.б. адзіны слушны шлях?*

Толькі так! Не было нават ценю сумневу, што ў нас можа быць штосьці няслушна. Хоць у войску, хоць у кіраўніцтве.

*А як ты даведаўся, што вайна скончылася?*

Познім вечарам 8 траўня 1945 г. мы былі на маршы. Раптам па калоне пранеслася: “Вайна скончылася!”, “Вайна скончылася!”, “Вайна скончылася!”. Мы адразу і не паверылі, ды і наагул ужо гэтулькі звыкліся з вайной, што яна стала настолькі ўжо часткай нашага ладу жыцця і думак... Толькі праз некалькі гадзінаў, калі ўсвядомілі, што гэта сапраўды канец вайны, пачалася такая страляніна. Кожны стараўся выстраліць увесь свой боезапас – калі вайна скончылася, то ён не патрэбны! У каго што было, усе стралялі ўгару. І крычалі.

Мы былі такімі нявыхаванымі, не было сямейнай культуры. Можаш сабе ўявіць, што мне ў галаву не прыйшло, што трэба тэрмінова напісаць бацькам дадому, матулі, што я жывы. Яна ўжо потым распавядала, што вайна скончылася, а ад мяне ніяк вестак няма. І напісаў жа я толькі праз два (!) тыдні. Таму, што ўвесь час на маршы, у руху. Матуля ўжо думала, што я загінуў і сярод жывых мяне няма, уяўляеш? А потым была такая радасць у Рэчыцы, што два сыны, я і Яфім (Хаім), прайшлі ўсю вайну, перажылі такія выпрабаванні, былі неаднойчы параненыя і засталіся жывымі. Не знявечанымі. У Яфіма наскрозь прабіта лёгкае, бок вырваны. Рукі і ногі ёсць, галава - ёсць. Напэўна, на раду напісана было выжыць. А мая другая кантузія? Калі я шэсць дзён не размаўляў, ляжаў у палявым шпіталі? Нічога не чуў. Нічога, ачухаўся. Маладосць. Здаровыя, маладыя былі. Ну, і Бог даў, кантузія не так моцна дзюбнула, як некаторых. Пашанцавала. Проста пашанцавала!

Праз год пасля апісаных падзеяў я пабываў у Брэслаў і бачыў велізарныя брацкія могілкі савецкіх салдатаў. Я налічыў там 25 магілаў герояў Савецкага Саюза! Відаць, туды звозілі парэшткі нашых байцоў з усёй акругі. А наагул жа костачкі бедненькіх нашых салдацікаў раскіданыя па ўсёй Германіі і Еўропе так, што слядоў не знойдзеш. Закопвалі проста так, ставілі нейкі знак, фанерку з надпісам хімічным алоўкам, калі была фарба, то фарбай ... Без ўсялякіх сумневаў вельмі многія не ведаюць дагэтуль, дзе спачывае прах іх блізкіх. Вось так, сынок, такое жыццё. Нездарма старыя жадаюць моладзі не ведаць войнаў".

### Каментар Леаніда Смілавіцкага:

Бацька пайшоў у войска добраахвотнікам, дамагаўся, абіваў ваенкамату. Нарэшце, пасля доўгіх угаворванняў (Лейбу яшчэ не споўнілася 18 год) Туймазінскі РВК Башкірыі пайшоў на сустрач. Там сям'я апынулася пасля эвакуацыі з Рэчыцы Гомельскай вобласці ў жніўні 1941 г. На станцыі Кузаватава бацька знаходзіўся ў запасным палку ў сакавіку-красавіку 1943 г. у чаканні адпраўкі на фронт.

Ва ўзнагародным загадзе бацька запісаны рускім. Гэта былі выдаткі вайсковага справавода. У іншых дакументах напісана "беларус", а ў трэціх - "яўрэй". На маё пытанне пра нестыкоўку бацька адказаў, што на гэта не звярталі ўвагі – важна было дажыць да вечара. У супрацьтанкавай артылерыі, дзе служыў тата, ілюзіяў ніхто не меў. Страты былі такія, што, напрыклад, афіцэраў падвышалі ў званні кожныя тры месяцы.

Пра тое, як бацька ваяваў, сведчыць дакумент, які я адносна нядаўна знайшоў у Архіве Міністэрства абароны Расіі ў Падольску. Гэта выпіска з загаду ад 27 жніўня 1944 г. па 649-м знішчальна-супрацьтанкавым артылерыйскім палку 13-й Асобнай знішчальна-супрацьтанкавай артылерыйскай Верхнедняпроўскай Чырвонасцяжнай брыгады Рэзерву Галоўнага Камандавання (ЦАМА, ф. 33, воп. 717037, д. 1508).

**27 жніўня 1944 г.**

**Ад Прэзідыюму Вярхоўнага Савету СССР узнагародзіць медалём "За адвагу"**

Смілавіцкага Льва Матвеевіча, кіроўцу 5-й батарэі, шэрагоўца за тое, што 26 чэрвеня 1944 г. у раёне в. Кур'яны Беластоцкай вобласці, пад артылерыйскім і мінамётным вагнём праціўніка своечасова даставіў боепрыпасы на батарэю, а падчас налёту на батарэю авіяцыі праціўніка, вывеў аўтамашыну з-пад удараў авіяцыі, такім чынам уратаваўшы аўтамашыну і гармату.

*Камандзір 649 ЗСТАП палкоўнік Увядзенскі*

# ЛЕАНІД ЛЫЧ: БЕЗ СВАЁЙ МОВЫ НАРОД НЕ СТВАРАЕ НІЧОГА АРЫГІНАЛЬНАГА

*Моўная палітыка ў Беларусі, роля беларускай мовы ў грамадстве і статус рускай мовы як дзяржаўнай у Беларусі дагэтуль выклікаюць шматлікія дыскусіі. Сваімі думкамі на гэты конт з чытачамі "Belarusian Review" дзеліцца доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч, аўтар шматлікіх манаграфіяў пра гісторыю беларускай культуры, моўную палітыку і міжнацыянальныя адносіны ў Беларусі.*

Belarusian Review: *Пачынаючы з 1995 г. ў Беларусі на дзяржаўным узроўні замацаванае двухмоўе. Як Вы ацэньваеце гэтае рашэнне?*

Леанід Лыч: Афіцыйнае двухмоўе, якое замацавалася ў Беларусі з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, не адпавядае сусветнай практыцы. Ёсць краіны двухмоўныя, трохмоўныя і г.д. Аднак, гэтыя краіны ёсць поліэтнічнымі, бо на іх тэрыторыі спрадвеку жывуць прадстаўнікі розных этнасаў. Беларусь – гэта монаэтнічная краіна з адным карэнным народам – беларусамі. Рускія, украінцы і іншыя народы, якія жывуць у Беларусі, ёсць тут этнічнымі супольнасцямі, мовам якіх ніводная краіна не дае статусу дзяржаўнай. Таму наданне рускай мове статусу другой дзяржаўнай ў Беларусі было зроблена насуперак міжнароднай практыцы рэгулявання моўнымі працэсамі.

Сусветная навука мела вельмі грунтоўныя манаграфічныя даследаванні ў пытанні двухмоўя, калі тая ці іншая краіна спрабавала ўводзіць двухмоўе. Прыкладам могуць быць даследаванні Карла Каўцкага. Згодна з ім, афіцыйнае двухмоўе – гэта часовая з'ява. Паміж мовамі вядзецца бязлітасная барацьба на выцісканне. Як правіла, з цягам часу перамагае адна мова, незалежна ад таго, ці ёсць яна роднай для большасці насельніцтва. Усё залежыць таго, як улады глядзяць на моўную палітыку. Таму пры адпаведнай палітыцы ўладаў нават мова карэннага насельніцтва можа страціць пазіцыі на сваёй гістарычнай тэрыторыі.

BR: *Як ажыццяўленне моўнай палітыкі дзяржавай пасля 1995 г. паўплывала на беларускае грамадства?*

ЛЛ: На першы погляд ў гэтым ёсць быццам бы штосьці прагрэсіўнае, бо ніхто моваў не забараняе. Але хто павядзе дзіця ў беларускамоўны садок ці школу, калі мае на прыкмеце далейшае навучанне ва ўніверсітэце і прафесійную кар'еру? А там усюды толькі руская мова. Таму нават самыя вялікія патрыёты стрымліваюць свае памкненні. Па-другое, якое гэта калецтва для развіцця і псіхікі дзіцяці. Выйсцем з гэтай сітуацыі я бачу тое, каб дзяржава афіцыйна выступіла і прызнала сваю памылку і заявіла, што, напрыклад, з новага году мы пачынаем вяртацца да сваіх нацыянальных каранёў, у першую чаргу – да мовы. Людзей трэба рыхтаваць.

У нашых людзей у глыбінных пластах душы нацыянальнае захоўваецца. Прыгадайце, як абудзілася грамадства, калі напрыканцы 1980-х адчулася, што нешта можна рабіць на нацыянальнай хвалі. Хаця ужо тады інтэлігенцыя ў другім, а то і ў трэцім пакаленні была зрусіфікаваная. Беларуская вёска была таксама не тая. Нашу вёску русіфікавалі радыё, тэлебачанне і кіно. Акрамя таго, з 1962 г. "Сельскую газету" перавялі на рускую мову. Нельга таксама забывацца пра вельмі вялікую разбуральную ролю ў гэтым кірунку з боку вясковай інтэлігенцыі, адукаванай на рускай мове. Існавала шмат фактараў, якія адвучалі нас ад беларускай мовы, каб мы жылі не сваім жыццём. Аднак, я веру, што нават сёння варта толькі дзмухануць у гэтыя нашыя нацыянальныя вуголлі, і адразу разгарыцца вогнішча. Але ж хто дзмухане?..

BR: Якія захады мусяць рабіцца для шырэйшага вяртання беларускай мовы ў штодзённае жыццё?

ЛЛ: Сённяшні стан мовы і нацыянальна-адраджэнскага працэсу паказвае, што саматужніцтвам, ініцыятыўным шляхам прыхільнікаў роднага слова яны не могуць вярнуцца да жыцця. Настолькі нацыянальная інтэлігенцыя страціла сваю актыўнасць, што ў яе няма патэнцыялу на гэта. Лёс беларускай мовы сёння цалкам залежыць ад дзяржавы, бо менавіта ў руках дзяржавы знаходзіцца сфера адукацыі. Дзяржава можа падняць мову любой ступені захворвання. Цудоўным прыкладам тут можа быць дзейнасць Дзяржавы Ізраіль у адраджэнні іўрыту.

Я прыгадваю наша адражэнне пачатку 1990-х гадоў. Вяртанне беларускай мовы ў публічнае жыццё пайшло так спраўна, што калі б гэты працэс не быў перарваны ў 1995 г. і працягнуўся яшчэ два-тры гады, то руская мова не мела б шанцаў, каб у выніку рэферэндуму стаць другой дзяржаўнай. Наагул, калі 26 студзеня 1990 г. быў прыняты Закон "Аб мовах", ніхто так актыўна не вывучаў беларускай мовы, як гэта рабіла чынавенства. Таму, калі б Лукашэнка пачаў размаўляць па-беларуску, усе б стараліся ўторыць яму. Як не дзіўна, але лёс мовы залежыць не ад навукоўцаў, а ад палітыкаў. Насельніцтва размаўляе на той мове, на якой абслугоўваецца палітычнае жыццё ў краіне.

BR: Ці магчыма існаванне Беларусі і беларусаў як нацыі без беларускай мовы?

ЛЛ: Я лічу, што народ па-за сваёй роднай мовай не з'яўляецца паўнавартасным народам, гэты народ этнічна хворы. Без сваёй мовы такі народ не ставарае нічога арыгінальнага, бо паўтарае, прычым у горшым варыянце, тое, на чыю мову і культуру ён перайшоў. Таму як нейкі соцыюм такі народ будзе існаваць, але ён не будзе ўяўляць нечага самабытнага, якое ў стане ўзбагачаць культурную разнастайнасць цывілізаванага свету.

*размаўляла* ***Ганна Васілевіч***

# ДЭВІД МАРПЛЗ АБ СВАЁЙ НОВАЙ КНІЗЕ: БЕЛАРУСКАЯ ВЕРСІЯ ПАДЗЕЯЎ ВАЙНЫ ЁСЦЬ У ТОЙ ЖА СТУПЕНІ МІФІЧНАЙ, ЯК І КОЛІШНЯЯ САВЕЦКАЯ

*У сваёй новай кнізе "Our Glorious Past": Lukashenka's Belarus and the Great Patriotic War (Штутгарт: ibidem, 2014) прафесар Дэвід Марплз даследуе, як рэжым Аляксандра Лукашэнкі выкарыстоўвае тэму Вялікай Айчыннай вайны ў якасці асноўнага складніку ў стварэнні дзяржаўнай ідэалогіі ў Беларусі. Прафесар Марплз прадстаўляе сваю новую кнігу чытачам часопісу Belarusian Review.*

Belarusian Review: *Чаму зварот да тэмы Вялікай Айчыннай вайны мае такое вялікае значэнне для Беларусі?*

Дэвід Марплз: Вайна без сумневу была эпахальнай падзеяй у гісторыі Беларусі, якая закранула кожную сям'ю. Вось чаму важна вывучэнне той вайны ў беларускім кантэксце. З іншага боку, вайна стала галоўным сродкам легітымізацыі Савецкай дзяржавы, асабліва пачынаючы з 1960-70-х гадоў, калі Дзень Перамогі стаў найважнейшай датай у савецкім календары. Час кіравання першага і да сёння адзінага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі адметны з дзвюх прычынаў. Па-першае, вайне быў нададзены статус вызначальнай падзеі беларускай мінуўшчыны. Па-другое, адбыўся перагляд былой савецкай версіі падзеяў вайны, асабліва ў межах беларускага кантэксту. У такі спосаб падзеі 1941-45 гг. непасрэдна знітаваныя з цяперашнім часам: Лукашэнка ёсць уяўным спадчыннікам мантыі вызваляльніка і абавязаны сваёй сёняшняй пасадай героям, што пазбавілі Еўропу ад "фашысцкай навалы" і "карычневай чумы". Гэткая трактоўка пераследуе дзве мэты. Яна легітымізуе прэзідэнцтва, якое грунтуецца на кантролі над грамадствам і інфармацыяй, а таксама абапіраецца на войска і сілы бяспекі. Акрамя таго, яна служыць спосабам адмаўлення іншых аспектаў гісторыі Беларусі, якія не ўпісваюцца ў змадыфікаваны савецкі канон. Падобная логіка азначае, што цяперашняя Рэспубліка Беларусь бачыць сябе наўпроставым нашчадкам Савецкай Беларусі, а таксама часткай расійскай ці савецкай "сям'і", чальцы якой змагаліся поруч з беларусамі за вызваленне. Гэта – вызначальная падзея ў фармаванні сучаснай ідэнтычнасці, якая не можа ставіцца пад пытанне ні гісторыкамі, ні нават удзельнікамі вайны. У межах гэткага падыходу раздзімаюцца страты, перабольшваюцца ці скажаюцца перамогі, ствараюцца героі (асабліва, хоць і не выключна, гэта тычыцца партызанаў) і практычна ігнаруецца Халакост яўрэйскага насельніцтва на беларускай тэрыторыі. Найперш, гэтая трактоўка накіраваная на легітымізацыю цяперашняга рэжыму і робіць яго адзінай крыніцай, якая дае ацэнку мінуламу, у выніку чаго – і я пра гэта ўжо даўно кажу як пра небяспечную з'яву – значна скажаюцца рэальныя падзеі.

BR: *Ці афіцыйная трактоўка вайны неяк ўплывае на беларускае грамадства? Калі так, то чым гэта можна вымераць?*

ДМ: Безумоўна, яна ўплывае. А ацаніць значнасць гэтага ўплыву можна ў некалькі спосабаў: праз апытанні грамадскай думкі, памятныя падзеі, такія як Дзень Перамогі і афіцыйны Дня незалежнасці, гістарычныя месцы памяці, музеі і помнікі. Усё гэта я разглядаю ў кнізе. Вядома, у некаторай ступені гэта – створаная памяць, якая выкарыстоўваецца для фармавання новай афіцыйнай нацыянальнай ідэнтычнасці, што легітымізуе прэзідэнцтва Лукашэнкі. Некаторыя навукоўцы, як нябожчык Віталь Сіліцкі, сцвярджаюць, што ўся гэтая канцэпцыя ёсць цалкам залежнай ад падтрымкі прэзідэнта, маючы на ??ўвазе, што без Лукашэнкі – пасля яго сыходу з пасады або смерці – яна знікне. Я думаю, што гэтае тлумачэнне ёсць цалкам верагодным, бо праз некалькі гадоў ужо практычна не застанецца жывых ветэранаў вайны. Паўстане патрэба таго, каб афіцыйныя парады абапіраліся на памяць аб ветэранах і на падручнікі. І хоць рэжым заахвочвае і прапагандуе сустрэчы ветэранаў з школьнікамі, іх уплыў цяжка ацаніць. Моладзі сёння прапануецца такая разнастайнасць зацікаўленасцяў, што захаванне вусных інтэрпрэтацый падзеяў вайны, прадстаўленых на гэтых сустрэчах можа быць кароткачасовым. Прынамсі, я схільны так лічыць.

BR: *Ці альтэрнатыўныя трактоўкі гісторыі вайны маюць патэнцыял, каб канкураваць з дзяржаўным гістарычным канонам?*

ДМ: У цяперашні час ім не хапае такога патэнцыялу. Як толькі ён з'яўляецца, улады рэагуюць. Гісторыкі ў дзяржаўных універсітэтах рызыкуюць сваёй кар'ерай, калі спрабуюць прапоўваць альтэрнатыўныя погляды альбо падыходы да вайны. На тых, хто прадстаўляе альтэрнатыўныя трактоўкі, навешваюцца ярлыкі "гістарычных рэвізіяністаў". Гэты тэрмін набыў такое з зневажальнае значэнне, як слова "фашызм" падчас вайны. З іншага боку, дзяржава не валодае поўнай манаполіяй на грамадскую думку. У інтэрнэце і сацыяльных сетках распаўсюджваюцца альтэрнатыўныя погляды. Яны свабодна абмяркоўваюцца, у тым ліку ў асяродках беларусаў, якія жывуць альбо навучаюцца па-за межамі краіны. Акрамя таго, перыяд вайны працягвае быць прадметам навуковай зацікаўленасці гісторыкаў у шэрагу навуковых цэнтраў не толькі на Захадзе, але, напрыклад, ва Ўкраіне, дзе напрацягу апошніх прынамсі дзесяці гадоў мелі месца значныя дэбаты па згаданай праблематыцы. Некалькі гадоў таму ў "Нашай Ніве" Андрэй Дынько разглядаў шэраг гэтых пытанняў, не ставячы, аднак, іх пад сумнеў. У кнізе я спасылаюся на працяглую серыю публікацыяў Іллі Копыла ў "Народнай Волі", якія, на маю думку, маюць шэраг недахопаў. У той самы час яны паказваюць некаторыя вострыя аспекты дзейнасці партызанскага

руху. Я ўпэўнены, што вы ўсе памятаеце, як газета атрымала афіцыйнае папярэджанне за публікацыю гэтых матэрыялаў, а яе рэдакцыю пікетавалі ветэраны, большасць з якіх, аднак, выглядалі даволі маладымі для сапраўдных удзельнікаў вайны.

BR: *Колькі часу будзе патрэбна беларускаму народу, каб пасля стольkіх гадоў ідэалагізацыі ўласнай гісторыі прыняць і зразумець рэальныя гістарычныя факты пра вайну?*

ДМ: Выклікае занепакоенасць той факт, што дагэтуль гэткі вузкі падыход дамінуе – чым даўжэй ім карыстаюцца, тым цяжэй будзе прапаноўваць дакладнейшыя ацэнкі падзеяў ваенных гадоў, аднаго з найтрагічнейшых перыядаў у гісторыі Беларусі. Вядома, шмат што залежыць ад тых, хто падтрымлівае Лукашэнку: ці захаваецца ўспрыняцце ўсеахопнай улады прэзідэнта, ці Беларусь з цягам часу вернецца да палажэнняў першапачатковай Канстытуцыі 1994 г. Змены ў падыходах павінны пачынацца ў школах, а гэта азначае патрэбу ў зменах як падручнікаў, так і ў настаўніцкіх падыходах. Для тых, каму цяпер за шэсцьдзесят, змена глыбока ўкаранёных поглядаў на рэчы можа быць вельмі цяжкім працэсам. Гэтая задача ёсць удвая складанай, бо напрацягу акупацыі беларусы без сумневаў цярпелі неверагодныя страты і цяжкасці. Такім чынам, існуе патрэба ў змене падыходаў на двух узроўнях: прызнанні таго, што вызваляльнікі маглі не прынесці вызвалення, і што беларуская версія падзеяў вайны ёсць у той жа ступені міфічнай, як і колішняя савецкая, а ў некаторых момантах нават яе пераўзыходзіць. У прыватнасці, гэта тычыцца гісторыі Брэсцкай крэпасці – першаснага заняцця яе савецкімі войскамі і пазнейшых баявых падзеяў 1941 г. Асабліва праблематычным выглядае пануючае меркаванне, што менавіта супраціў у Беларусі "выратаваў" Маскву. Дыскусіі вакол падзеяў 1941 г. ёсць сюжэтам новай кнігі брытанскай даследчыцы Поллі Джонс, але беларуская версія заслугоўвае асобнага расповяду.

BR: *Як бы Вы ў адным сказе маглі апісаць Вашу кнігу, каб зацікавіць ёй патэнцыйнага чытача?*

ДМ: У кнізе робіцца ацэнка спробы рэжыму Лукашэнкі выкарыстаць чыннік Вялікай Айчыннай вайны ў дзяржаўным будаўніцтве і стварэнні нацыянальнай ідэнтычнасці; асноўная ўвага надаецца афіцыйным наратывам, героям, ветэранам, гістарычным месцам памяці, музеям, мастацкім і дакументальным фільмам, пры гэтым галоўны акцэнт робіцца на падзеі 2008-2010 гг.

*размаўляў* Кірыл Касцян



## ПРА «ЎЯЎЛЕНУЮ ГЕАГРАФІЮ» БЕЛАРУСКАЙ ГУМАНІТАРНАЙ НАВУКІ

Беларуская гуманітарная веда апошнія 20 год перажывае працэс складанай і далёка не адназначнай трансфармацыі. Патрэба выхаду па-за межы марксістка-ленінскай метадалогіі і глыбокага ідэалагічнага кантролю была адной з галоўных, але пэўныя ўмовы развіцця беларускай навукі не дазваляюць казаць пра «канчатковасць» вырашэння гэтых праблемаў. Палітычныя змены перыяду савецкай «перабудовы» 1985-1991 гадоў прывялі не толькі да эканамічных і сацыяльных зменаў і канчатковага распаду Савецкага Саюзу, але таксама да поўнага пераасэнсавання «вытворчасці ведаў».

Да аднаўлення незалежнасці ў 1991 годзе пэўная форма аўтаноміі беларускага навуковага асяродку была абмежаваная ўласна межамі Беларускай ССР. Палітычныя межы, якія склаліся пасля 1945 году сталіся аднachасова межамі магчымых ведаў. Вывучэнне праблематыкі, якая б не адносілася непасрэдна да тэрыторыі Беларусі было вельмі абмежавана, або дапушчала пэўныя забароны. У гістарычнай навуцы такімі «выключэннямі» маглі быць пэўныя праблемы гісторыі старажытнага свету (вядомыя працы па гісторыі хетаў, рукапісаў Кумрану ці Старажытнага Рыму), сярэднявечча (аднак гэтая праблематыка даволі доўгі час лічылася «нямоднай»), новай ці найноўшай гісторыі. Усе гэтыя выключэнні хутчэй дапускалі, што пры наяўнасці адпаведных спецыялістаў частка тэтых даследванняў магла б быць і на Беларусі, але «вытворчасць» «небеларускай» праблематыкі (а часам і ўласна беларускай) у гісторыі прадугледжвала выезд у саюзныя цэнтры – Маскву і колішні Ленінград (цяпер С.-Пецярбург).

Праблематыка XIX стагоддзя вывучалася ў даволі спецыфічнай форме: не гледзячы на дэкларатыўнае падпарадкаванне прынцыпам гістарызму «ўяўленая геаграфія» беларускіх земляў у даследваннях савецкага перыяду толькі часткова адлюстроўвала адміністратыўную рэальнасць Расійскай імперыі. Падзел на губерні і паветы канешне паказваўся, але пры гэтым ігнаруючы адміністратыўную і кіраўнічую рэальнасць эпохі гісторыкі падзялялі паветы на беларускія, літоўскія, латышскія і польскія. Адпаведна, беларускім гісторыкам не дапушчалася апісваць працэсы на тэрыторыі Латгаліі, Віленскага краю, Падляшша ці Смаленшчыны толькі таму, што яны ўваходзілі на той час у склад суседніх саюзных рэспублік і дзяржаваў. Пры гэтым трэба было выкарыстоўваць вельмі складаную слоўную эквілібрыстыку, каб прынамсі перадаць чытачу базавую фактaлогію па дадзеных праблемах. Вільня ў XIX – першай палову XX стагоддзя была натуральным палітычным і культурным цэнтрам усяго рэгіёна (афіцыйна найменне якога гучала як «Паўночна-Заходні край» у часы Расійскай імперыі) і таксама

найважнейшым цэнтрам беларускай культуры і грамадскага жыцця (асабліва пад канец XIX – першай палове XX стст.). Не ўзгадваць аб ролі гэтага гораду было прынамсі вельмі складана. Аднак палітыка дзяржавы была скіраваная на тое, каб у сваёй масе беларусы не ўспрымалі гэты горад у якасці аднаго са «сваіх» культурных цэнтраў, а «толькі» ў якасці сталіцы суседняй брацкай саюзнай рэспублікі. Толькі ў літаратуразнаўчых даследваннях навукоўцам удавалася амаль «кантрабандным шляхам» паказваць ролю Вільні для беларускай культуры. Гісторыкі толькі ў самых неабходных выпадках, амаль вымушана, ўказвалі на гэты горад у якасці месца дзеяння нейкіх падзеяў ці як месца выдання кніг і газет.

Апрача цалкам зразумелага ідэалагічнага ціску (абавязковай і фармальна адзінай магчымай марксісцка-ленінскай філасофіі) склалася даволі закрытая прастора для «ўяўленай беларускай веды», закрытая межамі рэспублікі. Было хіба што адзінае выключэнне – гэта інфармацыя пра беларусаў у Польшчы – на Падляшшы, якая ў даволі абмежаванай форме дапускалася для масавай аўдыторыі. Хутчэй за ўсё галоўным момантам тут было само існаванне інстытуцыйна афармленага беларускага жыцця з арганізацыямі, школамі і прэсай. Ігнараваць такую сітуацыю з боку БССР было б занадта складана, прасцей гэта было рабіць у выпадку з Літвой і іншымі саюзнымі рэспублікамі: там такая інстытуцыяналізацыя беларускасці проста не прадугледжвалася. У выніку ў канцы 1980-х гадоў для большасці беларусаў веды пра Вільню як пра «свой» горад былі не толькі адкрыццём, але для часткі інтэлігенцыі практычна азарэннем – пачуццём, вельмі блізкім да рэлігійнага. Такое геаграфічнае абмежаванне веды межамі БССР прывяло да самых розных наследкаў, не толькі кагнітыўнага плану, але таксама паўплывала на масавую свядомасць значнай часткі насельніцтва. Распад савецкай сістэмы і ідэалогіі, замацаванне беларускай незалежнай дзяржавы «вызваліла» не толькі табуяваную факталогію – аб наяўнасці якой ведалі нават не ўсе прафесійныя гісторыкі яшчэ ў канцы 1980-х гадоў, але прывялі да пашырэння «ўяўленай геаграфіі» беларускасці не толькі на суседнія тэрыторыі, але практычна ўсю планету (перадусім у сувязі з магчымасцю кантакту і вывучэння беларускай дыяспары ў Еўропе, паўночнай Амерыцы ці Аўстраліі).

Варта заўважыць, што частковая рэсаветызацыя якая адбылася таксама і ў навуцы ў апошнія дзесяцігоддзе толькі часткова адбілася на зменах пра геаграфічная ўяўленне пра беларускасць. Разам з тым, варта падкрэсліць што «аднаўленне памяці» не прывяло да жадання змены межаў і выклікаў у бок суседніх дзяржаваў. Пашырэнне «ўяўленай» беларускасці толькі заахвоціла да супрацоўніцтва з суседнімі навуковымі асяродкамі і паступова спрыяе інтэграцы ў сусветны навуковы працэс.

*Андрэй Ціхаміраў*

**THE_POINT JOURNAL:**
**http://thepointjournal.com**
**Z této webové stránky si můžete stáhnout:**
*** archivní čísla**
**BELARUSIAN REVIEW**
*** archivní čísla časopisu**
**KRYVIJE**
**З гэтай старонкі можна сьцягнуць:**
*** архіўныя нумары**
**BELARUSIAN REVIEW**
*** архіўныя нумары**
**КРЫВІІ**

Redakce časopisu KRYVIJA:
Jurka Stankievič (1928-2014)
--------------------------------------------------
Рэдакцыя часопісу КРЫВІЯ:
Юрка Станкевіч (1928-2014)
--------------------------------------------------
Toto číslo bylo redakčně připraveno:
Kirył Kaścian, Hanna Vasilevič
--------------------------------------------------
Гэты нумар падрыхтавалі:
Кірыл Касьцян, Ганна Васілевіч

KRYVIJA
časopis běloruské diaspory v České Republice
- četnost vydávání: 4 krát ročně
- místo vydávání: Praha
- číslo vydání: 32
- den vydání: 14 srpna 2014
- evidenční číslo přidělené Ministerstvem Vnitra: MK ČR E 16919
- název vydavatele: občanské sdružení PAHONIA
- sídlo vydavatele: ul. 5 května 1043/32, Praha 4, 140 00
- identifikační číslo (IČO) vydavatele: 27038491